Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

36 (544) 9 верасня 2010 года

Кошт **свабодны**






Абласны семінар "Дзень аховы працы" сістэмы ЖКГ Віцебскай вобласці. Знаёмства з навінкамі вытворчасці.
*Фота Яўгена Самсонава*

# 1 ñòóäçåíÿ 2011 ãîäà ¢ Áåëàðóñ³ ñêàðà÷àåööà ïåðàë³ê â³äà¢ äçåéíàñö³, ÿê³ÿ ë³öýíçóþööà

**У Беларусі 1 студзеня 2011 года будзе скарочаны пералік відаў дзейнасці, якія ліцэнзуюцца. Гэта прадугледжана ўказам № 450 "Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці", 1 верасня падпісаным Аляксандрам Лукашэнкам.**

■ Марына Носава, БелаПАН.

**Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, "у мэтах лібералізацыі ўмоў ажыццяўлення эканамічнай дзейнасці" ўказам прадугледжваецца адмена ліцэнзавання 16 відаў дзейнасці, сем з якіх уключаюць у сябе 59 складнікаў работ (паслуг), а таксама прыкладна 60 работ (паслуг) па іншых 13 відах дзейнасці, ліцэнзаванне якіх захоўваецца; аб'яднанне двух відаў дзейнасці ў адзін.**

"Указ скіраваны на комплекснае рэгуляванне адносінаў у галіне ліцэнзавання", — гаворыцца ў каментарыі прэс-службы. Зацверджана таксама палажэнне аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці з прыкладзеным пералікам відаў дзейнасці, на ажыццяўленне якіх патрабуюцца спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі), і ўпаўнаважаных на іх выдачу дзяржаўных органаў і дзяржаўных арганізацый.

Указам прадугледжана, што юрыдычныя і фізічныя асобы, а таксама індывідуальныя прадпрымальнікі маюць права не прадаўжаць з дня афіцыйнага апублікавання ўказа да яго ўваходжання ў сілу тэрмін дзеяння спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ажыццяўленне відаў дзейнасці або спецыяльных дазволаў (ліцэнзій), якія ўключаюць толькі тыя складаючыя віды дзейнасці работы і (або) паслугі, ліцэнзаванне якіх адмяняецца. Яны могуць ажыццяўляць дзейнасць на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій), выдадзеных да 1 студзеня 2011 года, пры ўмове выканання патрабаванняў, прадугледжаных указам, да заканчэння тэрміну іх дзеяння.

"Адмена патрабаванняў аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці і складаючых іх работ (паслуг), аптымізацыя парадку і скарачэнне тэрмінаў ажыццяўлення ліцэнзійных працэдур, увязденне комплекснага рэгулявання адносінаў у сферы ліцэнзавання, прадугледжаныя ўказам, забяспечаць зніжэнне адміністрацыйнай нагрузкі на дзейнасць суб'ектаў гаспадарання", — падкрэслівае прэс-служба.

# Ïàâûøàíû òàðûôû íà ïàñëóã³ ïàøòîâàé ³ ýëåêòðàñóâÿç³

■ Марына Паўлава

**1 верасня павышаны тарыфы на паслугі паштовай і электрасувязі, паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства эканомікі.**

Гэта прадугледжана пастановай Мінэканомікі № 125 ад 18 жніўня 2010 года. Як растлумачылі ў прэс-службе, рашэнне прынята паводле прапановы Міністэрства сувязі і інфарматызацыі. Папярэдняе павышэнне тарыфаў адбылося ў снежні 2009 года.

Згодна з дакументам, тарыфы на паслугі паштовай сувязі агульнага карыстання, якія аказваюцца насельніцтву, юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам, павышаны ў сярэднім на 10%, на паслугі электрасувязі — на 7,1%.

Пры гэтым тарыф на перасылку паштовай карткі павышаны на 20 рублёў і ўстаноўлены ў памеры 250 рублёў, тарыф на перасылку простага ліста масай да 20 г павышаны на 30 рублёў і складае 320 рублёў. Абанементная плата для насельніцтва за карыстанне тэлефонам у сетках, пераведзеных на пачасовую сістэму аплаты, павышана на 500 рублёў і складае 2.900 рублёў у месяц, у сетках, не пераведзеных на пачасовую сістэму аплаты, — на 600 рублёў (4.200 рублёў у месяц), абанементная плата за радыёкропку складае 800 рублёў у месяц.

Прыкладна ў такіх жа памерах павышаны тарыфы на гэтыя паслугі для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў.

Прэс-служба адзначае, што тарыфы за мясцовыя і міжгародніх тэлефонныя размовы, устаноўку тэлефона і паслугі тэлеграфа засталіся на ранейшым узроўні.

"Неабходнасць павышэння тарыфаў абумоўлена іх стратнасцю", — пракаментавалі ў Мінэканомікі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Âÿðòàííå òâîðöû íà Ðàäç³ìó

■ Кастусь Александровіч

**Адным з самых славутых ураджэнцаў Пастаўскага раёна з'яўляецца класік беларускай літаратуры Уладзімір Дубоўка, якому споўнілася сёлетнім летам 110 гадоў з дня нараджэння.**

Землякі годна адзначылі гэту юбілейную дату. У цэнтры горада на памяшканні раённай дзіцячай бібліятэкі, якая носіць імя паэта, з'явілася прыгожая мемарыяльная дошка з выявай творцы. Ініцыятарамі стварэння барэльефа сталі райарганізацыя Таварыства беларускай мовы, мясцовыя краязнаўцы, якіх падтрымалі кіраўніцтва раёна і прадпрыемства "Пастскамень". Вырабіў скульптурную выяву твара знакамітага літаратара вядомы сталічны мастак Аляксандр Шатэрнік, аўтар каля сотні падобных работ. Па яго ным прызнанні, гэта праца стала адной з самых удалых і передала ўнутраны свет пісьменніка. На ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі славутага земляка сабраліся некалькі дзесяткаў прыхільнікаў творчасці У. М. Дубоўкі і самых актыўных чытачоў бібліятэкі. Пасля цырымоніі адбыліся Дубоўкінскія чытанні, якія адкрыў пад мелодыю скрыпкі пастаўскі паэт, лаўрэат ганаровага звання "Чалавек года Віцебскай вобласці" Ігар Пракаповіч.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Âàá³öü å¢ðàïåéöà¢ ãëûá³íêà

■ Чэслаў Якубовіч

**Дзякуючы сваёй найпрыгажэйшай у краіне прыродзе Віцебшчына стала лідарам у Беларусі па колькасці створаных аграсядзіб(291).**

Па-за канкурэнцыяй у гэтай сферы мясцовасць Браслаўскіх азёр, але ж і ў суседнім Мёрскім раёне ў адным толькі мястэчку Язна створаны і дзейнічаюць ужо 4 агратурыстычныя гаспадаркі. Здавалася б, нічога незвычайнага тут, у глыбінцы, няма, але гэтыя край аблюбаваліся падарожнікі са Швецыі, Галандыі, Англіі і Расіі. Менавіта шведы былі першымі і спыніліся ў вёсцы, калі прыехалі распрацоўваць адзін з турыстычных праектаў. Тады іх прымаў дырэктар школы Іван Шыкула, цяпер гаспадар аграсядзібы "Кляновая". Яго прыклад пераняла і суседзі з дабротнымі дамамі. Праўда, прыйшлося ім каля сваіх сядзіб навесці патрэбны парадак, паклапаціцца аб дагледжаных лазнях, набыць лодкі для прагулак па лебядзіным возеры Вялікае Язна. Замежнікаў прываблівае тут вясковая цішыня, гасціннасць людзей, звычайны сялянскі побыт, беларуская кухня. Гаспадары сядзіб набылі для турыстаў жыўнасць, рыбалоўныя снасці, веласіпеды. Для адпачываючых побач лес, тут ёсць святая крынічка, іх забаўляе мясцовы фальклорны гурт. Каб цікавей праходзіў час адпачынку на прыродзе, гаспадары сядзіб арганізуюць для сваіх гасцей экскурсіі ў старажытны Полацк, да ледніковага камяня, на верхавое балота-заказнік "Ельня".

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Âåäàé ñâîé êðàé

■ Станіслаў Раманчук

**Шматлікія дзівосы прыроды з Галубіцкай пушчай, дэндралагічным паркам, 106 азёрамі, дзясяткамі помнікаў архітэктуры і палаца-паркавага мастацтва складаюць сапраўднае багацце Глыбоцкага раёна.**

З нядаўняга часу цяпер усё гэта можна пабачыць на вялізнай каляровай карце-схеме для турыстаў ў цэнтры горада. Але і для мясцовых жыхароў яна адкрывае шмат новага і цікавага, міжволі выклікае пачуццё гордасці за родны край. Яе размясцілі на будынку кансервавага завода паблізу кафедральнага сабора і Троіцкага касцёла. Ініцыяваў добрую задуму новы кіраўнік раёна Алег Морхат. Выканана гэта праца па стварэнні такой карты з вялікай любоўю да роднага краю і да яго шчырых, працавітых людзей. Нават выпадковаму госцю райцэнтра, ідучы па вуліцы, прыйдзецца на некаторы час спыніцца і даведацца пра майстэрства інжынераў і архітэктараў мінулага, якія стварылі шматлікія хрысціянскія святыні. Вельмі добра, што выканалі карту з гербам Глыбокага на роднай беларускай мове, цудоўна глядзяцца каляровыя здымкі мясцін, якія і прыцягваюць ўвагу турыстаў. Дарэчы, днямі ў Глыбоцкім раёне зноў пабывала дэлегацыя інстытута турызма са Швецыі, якіх яшчэ летась зачаравала тутэйшая прыгажосць.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 09.09.10 | | | | пятн. 10.09.10 | | | | сб. 11.09.10 | | | | нядз. 12.09.10 | | | | 13.09.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +9 | +11 | +14 | +10 | +6 | +10 | +16 | +11 | +8 | +11 | +16 | +13 | +10 | +11 | +13 | +12 | +11 | +13 | +16 |
| Ціск, мм | 757 | 757 | 757 | 757 | 758 | 756 | 756 | 755 | 756 | 755 | 754 | 754 | 755 | 753 | 753 | 752 | 752 | 751 | 751 |
| Вільготнасць, % | 82 | 75 | 50 | 73 | 87 | 76 | 51 | 76 | 85 | 78 | 58 | 78 | 94 | 97 | 87 | 95 | 98 | 92 | 76 |
| Вецер м/сек | В 3 | В 3 | Ю-В 6 | Ю-В 2 | Ю-В 5 | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю 3 | Ю-В 5 | Ю-В 5 | Ю 5 | Ю 3 | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю 2 | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю-З 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У зернясховішчах краіны з мінулых гадоў засталося больш за1 млн. тон збожжа, што дапамагло Беларусі зноў забяспечыць сваю харчовую бяспеку. Сёлета беларусы сабралі зерня каля 7 мільёнаў, але гэта амаль на 2 млн. тон меней набыткаў 2009 года. Мінулае рэкордна цёплае лета прынесла таксама амаль 600 трагедый на вадзе, з пачатку года на вадаёмах краіны ўжо ўтапілася больш затысячу чалавек, з якіх 32 - дзеці ва ўзросце да 10 гадоў. З надыходам восені, калі ноччу стала холадна, з Беларусі на поўдзень пачалі адлятаць пералётныя птушкі – стрыжы, івалгі, салаўі, ластаўкі, пазней за ўсіх рушаць у далёкую дарогу жураўлі і лебедзі.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Кітай.** У парламент краіны паступіў новы закон аб адмене пакарання смерцю за шэраг эканамічных злачынстваў, вясной кітайцы адмянілі катаванні затрыманых на допытах.

**ЗША.** Штаб-кватэра ААН склала новы спіс з 77 самых бедных краін свету з насельніцтвам 1 мільярд чалавек, якія не здольныя сябе пракарміць і пакутуюць ад голаду, недахопу ежы.

**Латвія.** Кіраўнік каталіцкага касцёла краіны арцыбіскуп Збігнеў Станкевіч не падтрымаў прапанову аб увядзення абавязковага вывучэння дзецьмі Біблії ў латвійскіх школах.

**Германія.** Урад задумаў буйную рэформу нямецкай арміі са скарачэннем яе колькасці на трэць, да 164 тысяч чалавек, і ліквідацыяй прымусовага прызыву на ваенную службу.

**Іран.** Сусветнае агентства па атамнай энэргіі папярэдзіла краіну, што будзе вельмі строга сачыць за працай электрастанцыі на новай Бушэрскай АЭС магутнасцю 1000 мегават.

**Чылі.** Для вызвалення з палону на глыбіні 700 метраў пад зямлёй 33-х шахцёраў спатрэбіцца каля 4-х месяцаў. Іх цудам адшукалі праз 17 дзён знаходжання ў пасцы.

**Арменія.** Краіна дазволіла Расіі да 2044 года бясплатна размяшчаць у Гюмры расійскую буйную ваенную базу, якая будзе сачыць за бяспекай не толькі РФ, але і самой Арменіі.

**Германія.** Дэпутаты гарсавета гарадка Цвеніц у Рудных гарах абаранілі сваё права праводзіць паседжанні ў рэстаране пры гасцініцы, пры гэтым яны могуць есці і піць піва.

**Украіна.** У горадзе Цярнопалі з нагоды Дня незалежнасці быў разгорнуты дзяржаўны сцяг краіны даўжынёй 9,5 км, які трымалі 2 тысячы чалавек. Рэкорд зафіксавалі з самалёта.

**Егіпет.** Краіна блакіравала ўсе свае граніцы пасля паўторнага крадзяжу з музея ў Каіры знакамітай карціны Ван Гога “Макі” коштам 50 млн. $. Палатно ўжо выкрадалі ў 1978 годзе.

**Турцыя.** На ўзбярэжжы Мармурнага мора з’явіўся шыкоўны пяцізоркавы гатэль для ... коней, куды іх прывозяць купаць па спецпраграме ў моры багачы нават з Аўстраліі .

**Кітай.** На хуткаснай трасе Тыбет-Пекін утварылася з-за рамонтных работ гігантская аўтамабільная пробка працягласцю 100 км, аўто не маглі рухацца па дарозе 9 дзён.

**Аўстрыя.** Даследаванні ДНК 39 сваякоў А. Гітлера пацвердзілі, што ў яго жылах цякла яўрэйская кроў, а бацькам па-за шлюбам стаў 19-гадовы хлопец з расы “недачалавекаў”.

**Арменія.** Ерэванскі завод па выпуску каньякоў па просьбе А. Лукашэнкі адкрые ў Беларусі ў бліжэйшы час свой філіял і пачне выраб знакамітых армянскіх напояў.

**Украіна.** Гідраметэацэнтр краіны папярэдзіў, што паўвостраў Крым можа неўзабаве натуральным чынам аддзяліцца ад Украіны, стаць востравам з-за росту ўзроўню вод мора.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Са спазненнем на год пасля снежаньскага саміта АДКБ у Маскве перайдзе да Беларусі старшынство ў гэтай арганізацыі, якая ніяк не адрэагавала на падзеі ў Кіргізіі.

**Гомель.** На мясцовым аўтарамонтным заводзе асвоілі выпуск спецыяльных школьных аўтобусаў для дзяцей на 29 месц на базе добра сябе зарэкамендаваўшай мадэлі “Радзіміч”.

**Мінск.** У інтэрв’ю газеце “СБ. Беларусь сегодня” часовы паверааны ў справах ЗША ў РБ М. Скэнлан пацвердзіў, што адносіны з Беларуссю палепшацца пры руху яе да дэмакратыі.

**Глуск.** Больш за 30 чалавек з трох лясных вёсак раёна пакусала шалёная ліса, пакуль яе не злавілі і не знішчылі выкліканыя на падмогу выратавальнікі райаддзела МНС.

**Смаргонь.** З дапамогай службовай сабакі пагранічнікі адшукалі ў тайнікy вагона цягніка Харкаў-Калінінград нелегала з Малдовы, які праз Літву хацеў патрапіць у Еўропу.

**Мінск.** Прэм’ер-міністр Беларусі С. Сідорскі абурыўся, што на месцах пануюць утрыманскія настроі, улады там стрымліваюць развіццё бізнесу дзелавых людзей.

**Маладзечна.** Выдаткі на правядзенне тут юбілейных, 15-х па ліку, “Дажынак-2011” стануць рэкорднымі: 400 млрд. рублёў, альбо 130 млн. $ пры недахопе валюты ў краіне.

**Ліда.** Расце абурэнне гараджан і жыхароў вёсак у прыгарадзе з нагоды бydaўніцтва завода гарачай ацынкоўкі металаканструкцый, які штогод выкарыстоўвае па 200 т шкодных кіслот.

**Пінск.** Супраць дырэктара і галоўнага трэнера футбольнага клуба 1-й лігі “Хваля” абласная міліцыя распачала крымінальную справу за незаконныя выплаты ігракам.

**Мінск.** Дакладчык ПАСЕ па Беларусі С. Хурскайнен падкрэсліла, што рух краіны ў Еўропу зноў спыніўся з-за прымянення ў РБ смяротнай кары, ціску на СМІ і апазіцыю.

**Брэст.** Упершыню на XV Міжнародны тэатральны фестываль “Белая вежа” жадаючыя заказвалі білеты на выбраныя для прагляду лепшыя цікавыя спектаклі праз Інтэрнэт.

**Мінск.** Услед за іншымі палітыкамі пра свой намер балатавацца на прэзідэнцкіх выбарах заявіў лідар ЛДПБ С. Гайдукевіч і паспеў ужо выпусціць ... гарэлку са сваім партрэтам.

**Шчучын.** У адным з вясковых хлявоў міліцыя выявіла аснашчаную па апошнім слове тэхнікі лабараторыю па вырабу наркотыкаў. Расло ў памяшканні 27 кг канаплі.

**Мінск.** Нацыянальны аркестр Беларусі прыняў запрашэнні з Масквы на ўдзел у 4 вялікіх тэлепраграмах, бо канцэрты калектыва амаль не гучаць на айчынным тэлебачанні.

**Зельва.** З дапамогай адной з праграм ААН у райцэнтры аднавілі традыцыю славутых Анненскіх кірмашоў XVIII стагоддзя на плошчы з брычкамі, касцюмамі мінулых эпох.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** На НПЗ “Нафтан” правялі комплекс патрэбных работ для прыёму штомесяц 3 танкераў нафты з Венесуэлы з дастаўкай яе потым чыгункай праз порты Эстоніі і Літвы.

**Віцебск.** Увесь гужавы конны транспарт павінен бясплатна прайсці ў ДАІ тэхагляд і ўлік для допуску ў дарожны рух, кожная падвода вобласці атрымае свой нумарны знак.

**Браслаў.** Супрацоўнікі Віцебскай мытні на пункце пропуску “Урбаны” затрымалі грузавы аўтамабіль Renault, на якім літовец перавозіў нелегальна касметыку на 2,5 млрд. рублёў.

**Чашнікі.** Падчас асабістага прыёму грамадзян намеснік кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі В. Міцкевіч прыняў 18 чалавек, па вобласці іх было больш за 200 жыхароў.

**Бешанковічы.** На базе цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва ў райцэнтры адкрыўся сучасны рэабілітацыйны цэнтр для інвалідаў. Аднаачасова прыём- 20 чалавек.

**Віцебск.** Для падвозу дзяцей на заняткі дадаткова вырашана набыць яшчэ па адным школьным аўтобусе ў кожны раён вобласці. Цяпер школьнікаў возяць 147 адзінак тэхнікі.

**Талачын.** У новым сховішчы па сучасных тэхналогіях, распрацаваных у НАН Беларусі, будзе захоўвацца ўвесь ураджай (500 тон яблыкаў са свайго саду) мясцовы кансервавы завод.

**Полацк.** Як высветліла праверка Дзяржкантролю, 84 % проб вады ў раёне не адпавядалі саннормам.З 5 узведзеных там станцый абезжалезвання вады 4 не працуюць.

**Лёзна.** З-за вялікіх аб’ёмаў працы да канца года на працу без выхадных і ў тры змены перайшоў хлебны элеватар, штодзень тут прымаюць да 32 вагонаў з зернем з усіх абласцей РБ.

**Сянно.** Новы комплексны прыёмны пункт РКБА з шырокім комплексам паслуг ўрачыста адкрылі ў вёсцы Літусова, на ўзвядзенне модульнага КПП пайшло 267 млн. рублёў.

**Паставы.** На гарадскім стадыёне ў райцэнтры ўзвялі тэнісныя корты, пры ДЮСШ адкрыюць тэнісную секцыю, восенню запрацуе доўгачаканы гарадскі басейн.

**Віцебск.** Першы для вобласці сярэбраны медаль на І-х юнацкіх Алімпійскіх гульнях у Сінгапуры заваявала ў скачках на батуце выхаванка СДЮШАР №2 Света Макштарова.

**Браслаў.** Жыхары раёна і суседніх Міёрскага з Верхнядзвінскім неўзабаве змогуць ездзіць у Латвію па спрошчаным парадку, замест віз ім выдадуць дазволы на 5 гадоў за 20 EUR.

**Талачын.** За паўторную на працягу года лоўлю рыбы забароненымі прыладамі раённы суд пакараў браканьера 2 месяцамі арышту, і ў даход дзяржавы ён унясе яшчэ 1,9 млн. рублёў.

**Віцебск.** У пойме ракі Віцьба адкрыўся першы ў Беларусі стадыён з полем для пляжнага футбола, а па суседству – новае поле з сінтэтычным пакрыццём апошняга пакалення.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

**300** столькі буйных, валютварыльных прадпрыемстваў Беларусі , як адзначалася падчас нядаўняй справаздачы ўрада і Нацбанка аб рабоце эканомікі і выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны за 7 месяцаў, цяпер стратныя. Гэтыя лічбы ніяк не стасуюцца з прапагандысцкімі сцвярджэннямі, што ў цэлым развіццё дзяржавы ідзе ў правільным накірунку. Нават А. Лукашэнка вымушаны быў на той нарадзе з удзелам больш сотні ўпраўленцаў самага высокага рангу прызнаць правал выканання важнейшых параметраў і асноўных мэтавых паказчыкаў.

Такую выснову пацвярджаюць асноўныя факты і лічбы. За перыяд са студзеня па ліпень беларусы выканалі толькі 2з19 важнейшых , па сутнасці завышаных з прымяненнем адміністрацыйнага рэсурсу паказчыкаў параметраў (заданняў зверху) прагнозу на 2010 год. Мала дзе назіраецца станоўчая дынаміка, а на складах айчынных прадпрыемстваў ляжыць “мёртвым грузам” гатовая прадукцыя на суму 6 трлн. рублёў. Не выйшлі на запланаваныя рубяжы ні прамысловасць, ні сельская гаспадарка, не было прытоку інвестыцый у асноўны капітал і росту па іншых накірунках.

У выніку ў дзяржаўным бюджэце Беларусі не хапае цяпер 6,6 трлн. рублёў, а беларускаму ўраду пагражае адстаўка, хоць аб гэтым адкрыта не гаворыцца. Вельмі шмат жорсткай крытыкі дасталося яго ўпраўленцам за правалы ў інвестыцыйнай дзейнасці. Паступленні прамых замежных інвестыцый у беларускую эканоміку склалі толькі 20,4 % да адпаведнага ўзроўню 2009 года. Горш таго, на валютным рынку пры недахопе валюты яе набыццё перавышае продаж амаль на 3 млрд. USD. Агульныя даўгі беларускіх прадпрыемстваў на 1 ліпеня дасягнулі амаль 9 трлн. рублёў.

Мінулагодняе ўказанне кіраўніка краіны па разгрузцы складаў таксама аказалася невыкананым. Каб палепшыць статыстыку, шмат дзе проста аддаюць прадукцыю дылерам за мяжой без аплаты, дзе яна асядае на складах альбо ў гандлёвых дамах. У выніку толькі расійскія партнёры запазычылі беларускім вытворцам на суму 347 млрд. рублёў, ці ў 4 разы(!) болей,чым мы. Фактычна ўзнік тупік, бо планы ўрада і Нацбанка па выхаду з сітуацыі Прэзідэнт Беларусі не падтрымаў і жорстка раскрытыкаваў.

Меркавалася прадоўжыць да 2012 год а тэрміны вяртання льготных крэдытаў 6 айчынным гігантам, вытворцам аўтатранспартнай тэхнікі. Прэзідэнт з гэтым не пагадзіўся і запатрабаваў вярнуць усе грошы ў запланаваны тэрмін. Кіраўнік дзяржавы не падтрымаў і планы ўрада па вырашэнні праблем адмоўнага сальда знешняга гандлю за кошт атрымання 5 млрд. USD ад продажу часткі акцый важнейшых стратэгічных аб’ектаў (таго ж калійнага камбіната ў Салігорску ці БЕЛАЗа). Вельмі жорстка крытыкавалася цяперашняя палітыка ўтрымання і невяртання крэдытаў, да яе прывыклі аграрыі і іншыя кіраўнікі вытворчасці.

Па сутнасці, яшчэ раз пацвердзіўся ранейшы курс, што масавай ці абвальнай прыватызацыі ў Беларусі не будзе. Але ж дзе браць беларусам мільярды долараў,якіх не хапае? Падобна на тое, што мала хто аб гэтым ведае. Нельга ж лічыць выхадам з трывожнай сітуацыі і ўказанне закасаць рукавы і ісці ўраду на прадпрыемствы, працаваць чэсна, не красці. Быццам бы ад гэтага вырасце эфектыўнасць знешняга гандлю.

А наперадзе ж такое буйное мерапрыемства, як Усебеларускі народны сход. Неяк не верыцца, што за лічаныя месяцы можна будзе паспяхова выканаць невырашальную задачу, скокнуць вышэй галавы. Як можна паступова мадэрнізіраваць эканоміку, цалкам адмовіўшыся ад намераў продажу дзяржуласнасці?. Нам жа трэба жыць і далей, а не толькі да новых выбараў, латаючы дзіркі і падганяючы зарплату, каб залагодзіць электарат.

А наперадзе складаныя перамовы з Расіяй аб цэнах на газ і нафту на будучы год. Пакуль жа праблему недахопу грошай у нас вырашаюць звыкла: павысілі цэны на гарэлку на 5 %, на чарзе новае павышэнне закупачных цэн на 10 % у верасні-кастрычніку на мяса і малако. І ўжо адкрыта гаворыцца памочнікамі кіраўніка дзяржавы, што няма цэласнай мадэлі развіцця беларускай эканомікі, квітнее бюракратызм і г. д. Адсутнасць рэальных рэформ стрымлівае развіццё краіны і павышэнне рэальнага ўзроўню жыцця беларускай нацыі.

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 (538) 29 ліпеня2010 года, №31 (539) 5 жніўня 2010 г., № 32 (540) 12 жніўня 2010 года, № 34 (542) за 26 жніўня 2010 год, № 35 (543) за 2 верасня 2010 года.*

■ **Генадзь Комель**




У кнізе “Рысы майго пакалення” – Мінск: Белфранс, 2001. – Вячаслаў Шыдлоўскі ў прадмове сказаў: “Памяць асобнага чалавека – сведкі сваёй эпохі і свайго часу – таксама ёсць дакумент гістарычны. Памяць адрозніваецца ад іншых спосабаў фіксацыі падзеяў тым, што знікае разам з чалавекам.”

Так і знікла й сышло ў магілу сумесна з маім суседам па вёсцы Сайкоўскім Іосіфам Антонавічам мноства цікавых фактаў, невядомых гісторый дзён верасня 1939 года, сведкам якіх ён быў. Нават не захавалася ніводнай фатаграфіі на кватэры ягонай унучкі.

Засталіся толькі мае дзіцячыя ўспаміны яго аповедаў, на аснове якіх (і архіўных дакументаў) я й хачу апраўдацца перад яго памяццю за свае й чужыя грахі забыўчывасці.

Гадоў з шэсць таму назад, а мо й больш, мне пашэнціла пабываць у Катыні, да якой я ішоў, аб якой я марыў больш за 60 гадоў пасля расказаў Сайкоўскага.

Ехала група Мінскіх палякаў. Мае сябры змаглі ўладкаваць мяне ў гэтую паездку. У аўтобусе размаўлялі, маліліся, спявалі на польскай мове. Я з пятага на дзесятае штосьці разумеў і адказваў на беларускай мове. Сам мемарыял, які размяшчаецца не даязджаючы кіламетраў 12 да Смаленска, мяне ўразіў прадуманасцю размяшчэння фактычнага матэрыялу той трагедыі, велічным архітэктурным ансамблем. І ведаеце, я ў душы нават дараваў Ельцыну расстрэл Белага дома. Але цяперашняе захоўванне мемарыялу жадала б лепшых адносін. Чыгунныя таблічкі з прозвішчамі загінуўшых на сцяне смутку так пражавелі, што нічога прачытаць нельга. Праўда, два прозвішчы з вёскі Узрэчча я знайшоў. Трава й грыбы – грыб зонцік я сфатаграфаваў – у рост сасёнак. Ніхто нічога не робіць, нічога не ведае і ведаць не хоча. Я наўмысна адстаў ад групы і на расейскай сказаў двум мужчын ам ва ўніформе, што я тут першы раз і па архівах тут павінен быць яшчэ адзін лагер Казельск. І ведаеце, што яны мне адказалі? Што вось толькі прайшла група недабіткаў, Вы ў іх і запытайцеся.

Недабіткі – ды гэта ж палякі, якія першымі падставілі свае грудзі пад кулі фашысцкай навалы і палеглі, здабываючы нашу перамогу ў Вялікай Айчыннай.

Яшчэ ў жніўні 1937 года быў выдадзены Яжовым указ №00485. На першым этапе былі арыштаваныя прадстаўнікі польскай інтэлігенцыі. 5 сакавіка 1940 года Палітбюро ЦК ВКПб прыняло рашэнне расстраляць 25 700 польскіх афіцэраў і інтэлігенцыі (у Катыні, напрыклад, расстраляны 4 421 беларус). Першая душагубка (удушэнне выхлапнымі газамі) была зроблена начальнікам АХЭО НКВД Маскоўскай вобласці І. Д. Бергам у 1937 годзе.

У Гебельса ёсць выказванне, дакладна я не памятаю, але сутнасць у тым, што шматкроць выказаная хлусня становіцца у свядомасці грамадскасці праўдай.

У Мінску у выдавецтве Хурсіка ў 2007 і 2009 гадах Іван Данілаў выдаў “Запіскі заходняга беларуса” і “Няўдобная гісторыя”. Тут ён ужо ў другім-трэцім артыкуле звяртаецца да так званага пакту Молатава-Рыбентропа і даказвае, што прычынай ўзнікнення другой сусветнай вайны з’яўляецца заключэнне гэтага пакту, хаця й дзіцяці вядома, што гэта праўда, але не адзіная.

Двухгадоваму пляменніку маёй жонкі зрабілі ўкол у попу, а ён крычаў: “Ой, як горка! Ой, як горка!”

А мне гэта нагадвае, як пасля некалькіх гадоў перабудовы падняўся хамскі лямант, што ў Белавежскай пушчы пасля вяскошай лазні і добрых “банных традыцый” разбурылі Савецкі Саюз. А што яны 70 год і мы ўсе пад іх “мудрай камандай” разбуралі, дык гэтую акалічнасць запамятавалі, а хутчэй і не хочуць успамінаць.

І ўсе-такі Іван Данілаў мае рацыю хаця б у тым, што, не ведаючы добра падзеяў жніўня-верасня 1939 года, будзе крычаць, як тое дзіця: “Ой, як горка! Ой, як горка!”

Даруйце мне, але я бегла ўзгадаю некаторыя падзеі тых дзён.

Ну што ж, як гаварылі бальшавікі, распачнём лікбез. Дастанем з паліцы ўсе тыя кнігі, якія я Вам прапаноўваў у папярэдніх артыкулах, а я спадзяюся, Вы іх купілі, і распачнём заглытваць, што тая карова на галодны страўнік ды на добрай пашы. Праўда, потым карова кладзецца на жвачку, гэта значыць – зноўку пережаваць і заглынуць.

Перажоўвайце, глытайце, бо ніхто гэтай працы, акрамя Вас, не зробіць. Але якая асалода, калі сам дасягаеш сутнасці.

Зручная пазіцыя – запытацца, калі ёсць у каго. Так, як зрабіў наш зямляк, глыбачанін Барыс Міхайлавіч Волін. Ён запытаўся ў Леніна, як паводзілі сябе яго дэлегацыі на з’ездзе германскіх саветаў, які адбыўся ў Гомелі ў лістападзе 1918 года. Гэты “тлусты факцік” я прачытаў у кнізе нашага глыбачаніна Алега Тарыкава “Зарніцы в глубинах озёр” яшчэ савецкіх часоў выдання. Вось адкуль пачаліся мае “прывіды Версальскага замку”.

Дэкларацыя правоў народаў Расіі, якая была надрукавана 15.11. 1917 года, дазволіла ўтвараць самастойныя дзяржавы. Перамовы ў снежні 1918 года ў Брэст-Літоўску былі сарваныя дэлегацыяй Расіі таму, што Германія патрабавала ўздзелу ў перамовах прадстаўнікоў народаў акупаваных тэрыторый з прадстаўнікамі дзяржаўакупантаў.

Версальская мірная канферэнцыя, у якой удзельнічалі ЗША, Англія і Францыя, закончылася ў чэрвені 1919 года падпісаннем мірнага дагавора. Згодна з дагаворам Германія не павінна была адрадзіцца як рэваншысцкая дзяржава. Каб кантраляваць выкананне Версальскага дагавору, была ўтворана Ліга Нацый. Версальская дамова не задавальняла дзве вялікія дзяржавы – Германію і ўтвораны ў 1922 годзе СССР. Але яны хутка знайшлі выхад з гэтага тупіка, падпісаўшы ў Італіі Рапальскі гандлёва-палітычны дагавор, у якім асобным пунктам была тайная дамоўленасць па ваенных пытаннях. Вось дзе карані пакта Молатава-Рыбентропа!!!

Так і зрываецца з вуснаў ёмкая польская прыгаворачка: “Вароваць і блядоваць, тыльно надо попрабоваць”. Каб хоць якімсьці чынам утрымаць пад кантролем Германію, Англія і Францыя пры ўдзеле Бельгіі і Італіі змусілі Германію падпісаць у 1925 годзе дамоўленасць аб непарушнасці заходніх межаў і прынялі Германію ў Лігу Нацый.

Палітыка саступак заходніх дзяржаў Гітлеру прывяла да таго, што ён увёў абавязковую ваенную павіннасць у 1935 годзе, а па Рапальскім дагаворы ўжо да гэтага часу Савецкі Саюз рыхтаваў нямецкіх лётчыкаў і танкістаў. Усе разумелі, што грамадзянская вайна ў Іспаніі ў 1936 годзе ёсць спроба ваенных сілаў СССР і Германіі. Гітлераўскія войскі ў 1936 годзе занялі Рэйнскую дэмілітарызаваную зону, а ў 1938 годзе ўступілі ў Аўстрыю. У верасні 1938 года Францыя, Англія і Італія па Мюнхенскім дагаворы дазволілі Германіі заняць Чэшскія Судэты. У сярэдзіне сакавіка 1939 года, парушыўшы ўсе дамоўленасці, Гітлер захапіў ўсю Чэхаславакію, а праз тыдзень – Клайпеду. Гітлер выступіў з патрабаваннем праклацці па польскай зямлі чыгуначную і шасейную магістралі шырынёй 25 км для сувязі Германіі з усходняй Прусіяй.

Спрабуючы спыніць нямецкію экспансію, Францыя і Англія далі гарантыю бяспекі Польшы, Румыніі і Грэцыі, прапанавалі савецкай дыпламатыі ўключыць у абароны сістэмы Еўропы і СССР.

У адказ на гэтую прапанову Сталін рашыўся весці двайную гульню па прынцыпу «хто больш дасць». Ён уступіў у тайныя перамовы з Германіяй, пагражаючы ёй дамоўленасцю з Захадам. Закулісныя перамовы цягнуліся некалькі месяцаў, і Сталін вырашыў іх на карысць Германіі, падпісаўшы пакт Молатава-Рыбентропа.

У 1962 годзе я быў на трохмесячных усесаюзных зборах перападрыхтоўкі афіцэраў ва Ульянаўскім ваенным вучылішчы сувязі. Там у закрытых фондах бібліятэкі я сутыкнуўся з маленькай кніжыцай англійскага выдання, з якой я зразумеў , наколькі гэта вялікі козырабявасціць сваю дзяржаву барацьбітом за мір. Дык вось, англійскае выданне на аснове канкрэтных і дакладных архіўных дакументаў даказвала, што Гітлер ні з адной дзяржавай не распачынаў вайну першым. Так падцвердзіўся расказ майго суседа Сайкоўскага І.А. А расказаў ён вось што.

*Працяг будзе*

# Да 600-годдзя бітвы ля Грунвальда падрыхтавана новая кніга Выдавецтва Беларускага Экзархата

Да 600-годдзя гістарычнай бітвы ля Грунвальда Выдавецтвам Беларускага Экзархата падрыхтаваная добра ілюстраваная кніга «Грунвальдская бітва». «На 80 старонках навукова-папулярнага выдання змешчаны больш за два дзясяткі малюнкаў, рэканструкцый і картасхем, дадзена падрабязная інфармацыя пра гісторыю Вялікага княства Літоўскага, Каралеўства Польскага і іх супернікаў – Тэўтонскім і Лівонскім ордэнах. Упершыню ў гэтай кнізе, якая некалькі месяцаў рыхтавалася да гэтай памятнай даты, зроблены падрабязны рэльефны малюнак поля бітвы і дадзена рэканструкцыя асноўных этапаў знакамітай бітвы», – растлумачыў sobor.by выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў.

Аўтары Аляксандр Вялько і Міхась Марціновіч у гэтай працы зрабілі спробу праанalізаваць «бітву народаў», якая, па іх меркаванні, вызначыла далейшы гістарычны шлях шматлікіх еўрапейскіх дзяржаў. Аб'яднаныя ўзброеныя сілы Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага 15 ліпеня 1410 года ўшчэнт разграмілі войска рыцараў Тэўтонскага ордэна. Гэта бітва ўвайшла ў гісторыю як адна з найбуйнейшых бітваў сярэднявечнай Еўропы. Як адзначыў Уладзімір Грозаў, «у гэтай бітве выявіліся лепшыя рысы, уласцівыя славянам: калектывізм, згуртаванасць, узаемадапамога, аднадушнасць перад тварам небяспекі. Мы спадзяемся, што кніга, якая разлічана перш за ўсё на маладзевую аўдыторыю, зробіць уклад у справу патрыятычнага выхавання». Нагадаем, што ў гэтай крывавай бітве беларусы, палякі, літоўцы, украінцы, рускія абаранілі сваю волю і незалежнасць, а сіла і слава тэўтонскіх крыжакоў загінула канчаткова. Ні ваенны досвед, ні рэпутацыя непераможных ваяроў не дапамаглі нямецкім рыцарам перамагчы народы Усходняй Еўропы, якія згуртаваліся ў гэты гістарычны момант для адпору захопнікам. Поўны разгром суперніка, пасля якога існаванне Ордэна было б немагчымым, стаў сапраўды перамогай сілы духу славянскіх народаў, духоўна аб'яднаных шматвяковымі хрысціянскімі традыцыямі.




*Мацвей Родаў*



# Я наведаў горад Дзісну

**■ Антон Фурс,**
г. Паставы

Аднойчы, шмат гадоў таму назад, я ехаў цягніком з Пастаў у горад Полацк і ў паўпустым вагоне маю увагу прыцягнуў чалавек, заняты чытаннем газет. Тут былі і "Сумежжа" і "Kresy", якія тады выдаваліся ў Паставах.Я падсеў да яго, і мы пазнаёміліся. Ён назваўся Анатолем Якаўлевым, карэспандэнтам польскай газеты "Hłos z nad Niemna". Я таксама назваў сваё прозвішча – Фурс. І тады ён запытаў, ці ёсць ў мяне родзічы ў Дзісне? Я адказаў, шо там у мяне 3 дзядзькі і 2 цёткі. Тут ён і гаворыць, што знаёмы з маім дзядзькам Яўгенам Фурсам і ў 1995 годзе браў у яго інтэрв'ю, а калі я цікаўлюся, то гэты тэкст ён прышле мне. Я, зразумела, падзякаваў яму, і цераз які год атрымаў інтэрв'ю. Дзядзька Яўген можа крыху ідэалізуе тагачаснае жыццё дзісненцаў, але яго можна прабачыць, бо, як я ведаю, ён быў вялікім патрыётам сваёй малой радзімы Дзісны. З дзядзькам Яўгенам (Жэнькам) наша сям'я была ў самых блізкіх адносінах. Заўсёды, калі прыходзілася быць ў Дзісне, то спыняўся толькі ў яго. Другога дзядзьку, Васіля, я нават і не памятаю. А вось трэці дзядзька, Мікалай, любіў бываць на фэсце на Спаса ў Язне, дзе мы тады жылі ў язненскага святара, а потым у вёсцы Астроўшчына (цяпер Курылавічы), дзе мы жылі пазней, бо набылі свой уласны кавалак зямлі. Усе дзядзькі на той час былі нежанатымі і часам прыязджалі да майго бацькі Віктара, бралі яго за свата і ехалі выбіраць сабе нявесту. Але нешта ў іх гэта дрэнна атрымлівалася. Яны былі хлопцы відныя, майстравітыя, інтэлігентныя і адпаведна гэтаму выбіралі сабе нявест: каб былі прыгожыя, з добрай сям'і і не беднымі. А такіх цяжка было адшукаць. Толькі з прыходам 1-х саветаў, калі ў Дзісну прыехалі з Усходняй Беларусі маладыя дзяўчаты -медычкі, яны хутка адзін за другім ажаніліся. Тут ўжо не трэба было багацця, бо ўсе былі роўнымі ў беднасці. Ды і багатымі быць было небяспечна, каб не зведаць Сібіры альбо Салаўкоў. Аб гэтым у той час добра памяталі і страшна баяліся. Аб цётцы Вользе таксама нічога не ведаю. А вось сям'я цёткі Ліды запомнілася мне тады, калі яны прыязджалі да нас ў "бежанцы". Гэта яны ўцякалі ад веснавой паводкі, калі Дзісну – вуліцы і дамы- залівала вадой. Рака Дзвіна і Дзісенка ў гэтым месцы злучаліся ў адно цэлае і па горадзе можна было праехаць толькі на лодках. Шмат было матэрыяльных страт і клопатаў. Я нават бачыў у горадзе слуп з адзнакай фарбай узроўню вады ў розныя гады. Цяпер я амаль не маю ніякіх звестак аб сваяках з Дзісны. Сваяцкія сувязі разбурыліся, бо так склалася маё жыццё, калі я быў адарваны ад роднага дому і Беларусі цэлых 34 гады. З іх 9 год сталінскіх лагераў, а судзілі нас за тое, што мы належалі да падпольнай арганізацыі, якая змагалася супраць русіфікацыі, і за вольную, незалежную Беларусь. У 1956 годзе мы былі ўсе вызваленыя датэрмінова, атрымалі пашпарты і маглі жыць дзе заўгодна. Але мясцовыя ўлады паставіліся да нас варожа і я павінен быў выехаць у Казахстан, дзе адбываў свой тэрмін зняволення.

***

**■ Анатоль Якаўлеў**

Увосень 1995 года я наведаў старажытны горад Дзісну, з часу заснавання якога мінула 11 стагоддзяў. Дзякуючы свайму размяшчэнню, а знаходзіцца ён у месцы зліцця рэк Дзвіны з Дзісенкай, горад выконваў ролю фарпоста Каралеўства Польскага.

Да 1939 года Дзісна была найдалей выступаючым на ўсход горадам Польшчы, дзе знаходзілася мяжа з СССР. Геаграфічнае становішча спрыяла таму, што горад добра развіваўся, маючы канакты з Полацкам, Віцебскам, Смаленскам і Рыгай.

Да 1959 года Дзісна была раённым цэнтрам. Калі ж цэнтр раёна перанеслі ў горад Мёры, то адбыўся заняпад горада ва ўсіх адносінах. Сённяшняя Дзісна нічым не нагадвае калісьці квітнеючы цэнтр павета, успаміны пра які засталіся ў памяці найстарэйшых жыхароў.

Наогул, людзей тут жыве значна менш, чым перад вайной. Амаль усе яўрэі былі змардаваныя немцамі, а палякі прымусова вывезены ў Сібір у 1946 годзе альбо самі выехалі ў час рэпатрыяцыі ў Польшчу. Сённяшнія жыхары Дзісны – пераважна беларусы, палякаў засталося мала. У цэнтры горада руіны касцёла, які быў падарваны ў 1956 годзе. Да адной з яго сцен дабудавана каплічка, а сам касцёл адбудаваць няма каму. Дзве праваслаўныя царквы, адна з іх заўсёды дзейнічала, старанна адрэстаўраваная, і рэлігійнае жыццё тут ідзе належным чынам. Трэба зазначыць, што на Заходняй Беларусі, дзе да 1939 года была Польшча, рэлігійнасць як сярод католікаў, так і сярод праваслаўных была намнога вышэйшай, бо тут яшчэ не зусім парваныя традыцыі, якія ішлі з пакалення ў пакаленне.

Горад вельмі занядбаны. У самым цэнтры, дзе пры Польшчы быў помнік Пілсудскаму, пастаўлены помнік Леніну, які дакладна глядзіць на справу рук сваіх прыхільнікаў – зруйнаваны касцёл. А побач Дом культуры. Шмат мураванак у дрэнным стане, не маюць дахаў, свецяць праёмамі разбітых вокнаў. Славутасцю мястэчка і сёння з'яўляецца прыгожы бульвар над Дзвіной, які памятае яшчэ пачатак 20 стагоддзя, а сёння мае магутныя ліпы, якія ў цішы і самоце стаяць над берагам ракі. Найбольш занядбалай з'яўляецца старая частка горада – дамы паўразваленыя, пашарпаныя, даўно не тынкаваныя і не фарбаваныя. Выгод ў дамах няма, магазінаў мала. Замест базара – пара брудных доўгіх сталоў, на якіх некалькі гандляроў расклалі свае тавары. Працу ў Дзісне знайсці немагчыма, а тыя, хто знаходзіць, зарабляе настолькі мала, што асноўнай крыніцай існавання большасці сем'яў стала прадукцыя з уласнага агарода. Наогул, тут пануюць сум і бяда.

Зусім выпадкова мне ўдалося сустрэць найстарэйшага жыхара мястэчка Яўгенія Фурса, які жыве паблізу прыгожай царквы, пры старой вуліцы, выкладзенай брукам. Царква тая, як паведаміў пан Яўген, уцалела толькі таму, што была далёка ад гмаху райкама партыі. Калі б знаходзілася б крыху бліжэй, яе б напаткаў лёс касцёла. Распавядаючы пра гісторыю мястэчка, размоўца вярнуўся ў часы 1-й сусветнай вайны.

Як толькі царскія войскі пачалі адыходзіць з захаду на ўсход, жыхароў у горад прыбывала ўсё больш і больш. Людзі вельмі радаваліся, калі маглі знайсці жытло, хаця б і на паддашшы. А жыццё ішло звычайным парадкам: працавала шмат крам, майстэрняў, ад гадзіны па палудні і да самай ночы на эстрадзе бульвара граў духавы аркестр, там прагульваліся і танчыла шмат прыгожых, пекна прыбраных, элегантных пар. Вясёлае было мястэчка, на жаль, ад яго сёння нічога не засталося. А гандль таксама квітнеў.

Да 1918 года ў Дзісне было ўсё, як за даўнімі часамі: вучыліся, працавалі, гандлявалі – бяда не заглядвала людзям у вочы. Дзеці вучыліся ў жаночых і мужчынскіх школах. У 1918 годзе ў Дзісну прыйшлі немцы і былі тут 8 месяцаў. Як прыйшлі без бою, так без бою і пайшлі, пакінуўшы пасля сябе добрую памяць.

Яўрэяў не чапалі, добра да іх адносіліся. Як толькі занялі Дзісну, немцы сабралі дарослых мужчын і сказалі,што калі жыхары выкажуць добрую волю і дапамогуць, то яны наладзяць для мястэка электрычнасць, бо ў іх на той час свет быў нават у вёсках.

Баючыся распаўсюджвання інфекцыйных хвароб, яны стварылі спецыяльную санітарную камісію і сачылі, каб гаспадары кожны дзень палілі сметнікі карбалоўкай.

Для забяспячэння грамадскага парадку кожная вуліца павінна была выстаўляць вартаўніка на ноч, што рабілі па чарзе. Каб чарга не парушалася, была зроблена мятла, і калі раніцай мятла стаяла ля калітці, то гэта азначала, што ў наступную ноч на варце павінен быць гаспадар гэтага дома. За ўсім гэтым глядзела паліцыя, і за непадпарадкаванне была вялікая кара.

Пры Польшчы Дзісна стала павятовым* і прыгранічным горадам. Гэта спрыяла яго росквіту. Узровень жыцця павольна ўзрастаў. Усё больш і больш бацькоў маглі пасылаць сваіх дзяцей вучыцца ў гімназіі і вышэйшыя навучальныя ўстановы. У будынку былой гімназіі сёння шпіталь. Каму ж фінансавыя магчымасці не дазвалялі плаціць за навуку, тыя пасылалі сваіх дзяцей да 7-гадовай школы, дзе плата за навучанне не бралася. Самае вялікае і найгучнейшае свята ў горадзе было ў гонар святой Тэклі. Тады перад касцёлам збіралася вельмі шмат людзей. Вучні гімназіі, звычайна гэта былі хлопец і дзяўчына, збіралі сярод людзей грошы для дапамогі бяднейшым, якія потым мелі бясплатнае адзенне і пасылкі. У гэтай акцыі браў ўдзел і пан Яўген. Тое самае адбывалася і на праваслаўнае свята Маткі Боскай Смаленскай Адзігітрыі.

Да 1939 года ў Дзісне жыло шмат адукаваных людзей, якія атрымалі адукацыю ў Вільні, Кракаве, Швейцарыі. Найбольшы працэнт з іх складалі яўрэі. Лекараў было 2 – адзін паляк, другі – яўрэй. Паляк паходзіў з беднай сям'і, але гімназію і медыцынскую ўстанову скончыў выдатна, канешне, пры дапамозе мясцовых паноў. Прозвішча яго было Дадэка. Асноўную частку насельніцтва складалі яўрэі, іх было амаль 70%. Яны мелі некалькі сінагог, свой банк, шмат крамаў і майстэрняў. У магістраце сярод радных было 7 яўрэяў. У выбарах за яўрэяў заўсёды галасавала шмат хрысціян. Да 1939 года бурмістрам горада быў Федасевіч, а яго памочнікам пан Пуцята. Як толькі саветы занялі горад, іх зараз жа арыштавалі і з сем'ямі вывезлі ў Сібір. Абодва гаспадары горада свой абавязак выконвалі належным чынам, былі паважанымі людзьмі і пакінулі аб сабе добрую памяць. Сям'я Фурсаў мела сталярную майстэрню, дзе вырабляла мэблю. Старэйшы брат вучыўся гэтай прафесіі ў Вільні, дзе і атрымаў дыплом майстра. Заказаў заўсёды было шмат, бо мэбля выраблялася Фурсамі моднай і добрай. Дома быў дастатак, дзякуючы працавітасці і руплівасці ўсіх сямейнікаў. Апраналіся з густам і дорага, а ўбранства дома сведчыла аб заможнасці яго гаспадароў.

*Заканчэнне будзе.*



**Дзісна, 1934 г. Група гімназістаў чытае газету «Kurier Codzienny».**

* Аўтарская памылка. Насамрэч, цэнтрам Дзісенскага павету было Глыбокае (заўвага рэдакцыі).

# Змагар з браканьерамі даў урок дзесяцікласнікам

■ Яўген Самсонаў

**З надзвычай цікавага і вельмі карыснага ўрока пачалі навучальны год вучні 10 “Б” класа Глыбоцкай СШ №3.**

На чале з класным кіраўніком Інай Гіль яны адразу пасля першага званка ўрачыстай лінейкі завіталі ў Глыбоцкую дзяржаўную інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Іх ветліва сустрэў начальнік гэтай установы Аляксей Віктаравіч Протас. Ён азнаёміў школьнікаў з гісторыяй стварэння Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, іх мэтамі і задачамі ў цяперашні час. Адказаў на пытанні вучняў, якія цікавіліся перспектывай набыцця прафесіі інспектара і ўручыў кожнаму адмысловы журнал і каляндар. Затым была экскурсія ў падсобныя памяшканні, дзе хлопцы і дзяўчаты пазнаёміліся з тэхнікай і спецсродкамі, якія маюцца на ўзбраенні інпекцыі, а таксама з канфіскаванымі сродкамі браканьерства.

Напрыканцы сустрэчы гаспадары пачаставалі гасцей духмянай юшкай.

– Усе мы вельмі задаволеныя, што пабывалі тут. Пачулі і ўбачылі шмат цікавага. Мы ўдзячны інспектарам за іх карпатлівую, а часам і небяспечную працу па абароне прыродных багаццяў. І хто, як не мы, моладзь, павінны быць у першым шэрагу памочнікаў няшчаднай барацьбы з браканьерсвам, бо прырода- гэта наша, роднае, наш дом, наш свет, – сказала ў інтэрв'ю адна з удзельніц сустрэчы Дзіяна Букоўская.





10 “Б” клас Глыбоцкай СШ №3.



# Да ўвагі паляўнічых

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Паводле Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў Рэспубліцы Беларусь на ўсёй тэрыторыі ўсталяваны тэрміны адкрыцця палявання на розныя віды жывёл. Так, паводле Правіл, з 1 кастрычніка па 15 снежня адкрываецца паляванне на лася, аленя высакароднага, кабана, казулю еўрапейскую, спосабам загону, у светлы час сутак, а гэтак жа з засады, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі - на працягу сутак.

Загоннае паляванне- адзін з найболей папулярных відаў палявання, таму адкрыццю дадзенага спосабу палявання надаецца значная ўвага органамі дзяржаўнага кантролю за вядзеннем паляўнічай гаспадаркі і паляваннем (Мінлясгас, Мінпрыроды, Дзяржінспекцыя, МНС, дзяржаўныя прыродаахоўныя ўстановы, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй)

Паляванне можа праводзіцца ў арандаваных паляўнічых угоддзях (п. 185 Правілаў), знаходжанне ў паляўнічых угоддзях ці іншай тэрыторыі, якая з'яўляецца месцам рассялення паляўнічых жывёл, асобаў з паляўнічай зброяй ці іншымі прыладамі або паляўнічымі сабакамі, спушчанымі з ланцужка, лоўчымі птушкамі або са здабытай прадукцыяй палявання, а гэтак жа здабыча дзікіх жывёл, якія не з'яўляюцца паляўнічымі жывёламі, з выкарыстаннем прылад і спосабаў палявання прыраўноўваецца да палявання, (п. 185 абз.2 Правілаў)

Стрэльбавае загоннае паляванне на капытных жывёл па разавых дазволах можа праводзіцца ў суботу, нядзелю, панядзелак, аўторак, а таксама ў дзяржаўныя святы, святочныя дні, абвешчаныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь непрацоўнымі.

Аднак не заўсёды паляванне прыносіць задавальненне. З адкрыццём сезону палявання на капытных, у тым ліку і загонным спосабам, як правіла, павялічваецца гібель грамадзян на паляванні. Калі паляўнічы страляе па невыразна бачнай мішэні, ён ужо становіцца патэнцыйным парушальнікам. Практыка паказвае, што ў большасці выпадкаў чыннік згубы людзей падчас палявання звязаны з найгрубейшымі парушэннямі правіл бяспекі - стральба на шум, шоргат, па невыразна бачнай мішэні, што катэгарычна забаронена Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Сітуацыя з гібеллю людзей на паляванні з года ў год паўтараецца. Фатальныя стрэлы часцей за ўсё фіксуюцца падчас паляванняў на кабана. Толькі за 8 месяцаў 2010 года зафіксавана 5 выпадкаў са смяротным зыходам.

Так, 14 ліпеня паляўнічы Петрыкаўскага РОС РГОО «БООР» смяротна параніў жыхара Мазыра, які ішоў па ўскраіне лесу ўздоўж аўсянага поля.

Таму супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі перапканаўча просяць паляўнічых раёна яшчэ раз вывучыць правілы палявання і строга выконваць патрабаванні бяспекі, бо яны, на жаль, пісаны крывёй саміх паляўнічых. Ні які здабыты трафей не варты жыцця чалавека.

# Алеся Бука пайшла вучыцца па-беларуску, але не туды, куды хацела



Сям’я Букаў прэзентуе сваю аграсядзібу (Алеся крайняя справа).

Дзяўчынка-пяцікласніца паступіла вучыцца ў Глыбоцкую гімназію, але мусіла адмовіцца ад навучання ў прэстыжнай, але расейскамоўнай навучальнай установе.

Як распавяла маці Алесі, уладальніца аграгурыстычнай сядзібы «Родны кут» Юлія Бука, у гімназіі сфармавалі два расейскамоўныя класы. Хоць падчас паступлення бацькоў не папярэдзілі, што такое можа быць, усе дзеці паступалі вучыцца ва ўстанову з беларускай мовай навучання.

За тыдзень да 1 верасня Юлію Буку папярэдзілі, што ўсе класы на паралелі па жаданні бацькоў будуць расейскамоўнымі. На бацькоўскім сходзе, кажа маці вучаніцы, яе зневажалі і ўпікалі тым, што дачка захацела вучыцца ў райцэнтры, а не ў Гатаўшчынскай школе, за тры кіламетры ад дому, дзе вучылася раней. Адкрыць клас з беларускай мовай навучання для адной вучаніцы ў гімназіі адмовіліся.

Адзінае, чым паспрыяла гімназія — гэта тым, што Алесі Бука дазволілі жыць у тамтэйшым інтэрнаце. Вучыцца дзяўчынка будзе ў сярэдняй школе № 3, дзе сфармаваная пятая кляса з беларускай мовай навучання. Таксама яна будзе наведваць музычную школу — таму сям’я і настойвала на тым, каб у дзяўчынкі была магчымасць жыць у Глыбокім.

«Мажліва, гэта будзе не той узровень адукацыі, як у гімназіі, але адзіная магчымасць вучыцца па-беларуску», — кажа маці Юлія Бука.

***Радыё Свабода***

